# Што карысней?

Каму не прыемна, калі ён сядзіць сабе ў фатэлі, як кароль на імянінах, а яму прыслугоўваюць іншыя? Адны падносяць пантофлі на ногі, другія гарачую чакаляду альбо ражок найсмачнейшага лёдзіва-марозіва, трэція... А трэція проста стаяць напагатове і чакаюць, чаго пажадае хлопчык альбо дзяўчынка, што сядзіць у фатэлі, як той кароль на імянінах!.. Падносяць, дапамагаюць, служаць... Усміхаюцца табе і ніхто з іх, вядома, ад цябе нічога не чакае, бо ты нікому нічога не абавязаны даць, зрабіць для яго, паслужыць яму...

Ці хацелі б вы, сябры, пасядзець у тым фатэлі? Дзяўчынка Марыйка, калі я запытаўся ў яе пра гэта, нават твар закрыла рукамі і заматляла галавой: не, нізавошта! А хлопчык Мацвей надзьмуў шчокі, падумаў трохі і разважыў так: ну-у, калі ненадоўга, а так, трохі пасядзець у тым фатэлі... Ягоны сябар Андрэй упэўнена сцвердзіў: не хацеў бы ні за якія грошы, хіба што толькі тады, калі ў класе кантрольная па матэматыцы.

А Езус казаў, што Ён прыйшоў не дзеля таго, каб Яму служылі, але каб паслужыць людзям і каб аддаць сваё жыццё за многіх... А мы? Ці прагнем мы быць падобнымі да Яго? І што робім для гэтага?

*Езу, які любіў служыць людзям,*
*навучы нас таксама любіць іх,*
*памагаць ім, служыць ім...*
*Каб некалі потым разам з імі*
*радавацца на сустрэчы з Табою.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# ДОБРЫЯ СПРАВЫ

Мая знаёмая пяцікласніца Агатка склала на Адвэнт каляндар. На кожны дзень яна прыдумала нейкую карысную справу: наведаць хворую маміну сяброўку (3 р.), дапамагчы брату зрабіць урокі (5 р.), схадзіць у краму (7 р.), памыць посуд (6 р.) і г.д. Разлічыла роўна на ўсе дні Адвэнту, пра ўсё нібыта падумала і павесіла прыгожы каляндарык проста над сваім пісьмовым сталом.

Пачаўся Адвэнт, і Агатка пачала пад каляндарыкам весці рахунак — схадзіла туды, зрабіла тое... Прыбегла да яе сяброўка Рыта ды папрасіла: «Ці магла б ты дапамагчы нам рабіць цацкі для дзіцячага дома?» «Не, — адказала сумна Агатка, — я занятая іншымі справамі». Папрасіў тата: «Схадзі, Агатка, наведай бабулю, а то я не паспею сёння». Уздыхнула Агатка і адмовілася, бо ў яе таксама іншыя справы былі прызначаныя на той дзень. «Каляндар жа не адменіш!» — жалілася яна потым сяброўкам на ўроках рэлігіі.

— Цікава, а каб Езус сказаў сляпым, глухім, паралізаваным: «Не, у Мяне сёння іншыя планы...» — уголас падумала сястра Дамініка.

Дзеці прыціхлі, а Агатка зморшчылася, нібы вось-вось збіралася заплакаць.

— Каляндар — гэта добра, гэта правільна, — працягвала з роздумам сястра Дамініка, — але сэрца наша часам працуе па-за графікам. Праўда?

*А. Барткевіч*



«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 4 (54)/2011 г.
Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.
Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.
Адрас рэдакцыі: 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 1466.
Падпісана да друку 6.12.2011 г. Надрукавана ў друкарні ААТ «Юстмаж».
ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009 г. Вул. Каліноўскага, д. 6, Г 4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.

*Хрысціянская легенда*

# Кароль любові і міласэрнасці



Зорка на небе абвясціла нараджэнне Караля любові і міласэрнасці. Убачыў яе кароль адной далёкай краіны і вырашыў таксама паехаць да Нованароджанага, завезці Яму свае дары. Сабраў ён караван, узяў з сабою слугаў і накіраваўся ў дарогу. Зорка паказвала яму шлях.

Ехалі яны доўга і прыехалі ў адну краіну, дзе панавала засуха. Расліны тут завялі і пачалі сохнуць, людзі і жывёла паміралі ад смагі. У караля меўся запас вады, але яму таксама яна была патрэбная, бо наперадзе яго чакаў яшчэ доўгі шлях. Ды толькі і людзей пакінуць у бядзе ён не мог. Задумаўся кароль, а што зрабіў бы на маім месцы Кароль любові і міласэрнасці? І адразу ў сэрца прыйшоў адказ: «Вядома, дапамог бы людзям!»

Кароль дастаў свае запасы вады, пачаў паіць людзей і жывёлу, потым паслаў слугаў яшчэ па ваду ў сваё каралеўства. Доўга вазілі слугі ваду, час мінаў, і вось нарэшце пайшоў доўгачаканы дождж, які наталіў усю зямлю. Ажыла і зазелянела прырода. Кароль змог запоўніць свае мяхі і жбаны вадою — караван рушыў далей. Зорка ішла наперадзе іх — паказвала шлях.

Прыехаў наш вандроўнік у яшчэ адну дзяржаву, а там пануе эпідэмія халеры. Людзі пакутуюць і гінуць, усюды енкі, плач, смерць. Зразумеў падарожнік, што Кароль любові і міласэрнасці загадвае яму прыпыніцца і брацца за працу. Днём яны лячылі, кармілі, дапамагалі хворым, а ўначы хавалі памерлых. Заразілася і памерла шмат слугаў, скончыліся запасы ежы, пазношвалася адзенне. Не бачна ўжо было ніякіх прыкметаў каралеўскай велічы адважнага вандроўніка, але хваробу яны ўсё ж перамаглі.

А зорка свяціла і клікала падарожніка зноў у дарогу... І пайшоў кароль далей адзін пешкі . У яго яшчэ было трохі запасаў грошай і золата. Ён прыйшоў у нейкі горад і трапіў на кірмаш, дзе ўбачыў, як прадавалі рабоў. Падумаў кароль: «Як жа так? Хіба мае права адзін чалавек прадаваць другога? Што зрабіў бы на маім месцы Кароль любові і міласэрнасці? У мяне ж яшчэ ёсць грошы і золата!..» Кароль



выкупіў усіх рабоў, аддаўшы за іх свае апошнія зберажэнні.

Пайшоў далей. Ён зрабіўся падобны ўжо не на караля, а на жабрака. Зорка нарэшце спынілася, і падарожны ўвайшоў у невялікі гарадок. Але дзе знайсці Караля любові і міласэрнасці?

Бачыць — па вуліцы ідзе вялікі натоўп людей. Сярод іх кароль угледзеў чалавека з крыжам. Можа, гэта Ён?.. Чалавек наблізіўся: твар яго пануры, вочы непрыязныя, па шчаках цякуць слёзы. Не, гэта не Кароль любові і міласэрнасці! Сярод натоўпу ўбачыў вандроўнік яшчэ аднаго чалавека з крыжам. Але твар Яго быў такі злосны, вочы раз'юшаныя, што немагчыма было нават падумаць пра любоў і міласэрнасць. Нарэшце за імі з'явіўся трэці чалавек з крыжам. Ён быў моцна стомлены і знясілены, але ветлы, яго вочы былі напоўнены ласкаю і любоўю. Здаецца, нейкае святло сыходзіла з іх. Яны ўсё прабачаюць і вабяць да сябе. Безумоўна, гэта Кароль любові і міласэрнасці!

Стомлены падарожнік падышоў да Караля з крыжам, а той прыпыніўся і сказаў: «Дзякуй табе за ўсе дары, якія ты прынёс Мне. Я з радасцю іх усе прыняў». І кароль, які ўжо быў зусім не падобны на караля, схіліўся ў нізкім паклоне перад сапраўдным Каралём любові і міласэрнасці.

*Запісала*
*Генавефа Дубіловіч.*



# ПРОСТАЯ ДАРОГА




### «Інтэрв'ю» са святым Янам Хрысціцелем

*— Святы Ян, а чаму ты так настойліва заклікаеш нас у Адвэнце, каб мы зрабілі простымі дарогі Езусу? Хіба па звілістых Ён не ўмее хадзіць?*

— Ён, Яська, умее ўсё. Але Ён нікога ні да чаго не змушае. Я спадзяюся, ты разумееш, што выпрастаць дарогу для Езуса — гэта знішчыць усе перашкоды да таго, каб паяднацца з Ім. Ён прыходзіць да тых, хто яго сапраўды чакае. Вось да гэткага чакання я і заклікаю людзей. Да сапраўднага!

*— А бывае, значыць, і несапраўднае? Гэта як?*

— Калі чалавек сам сябе падманвае.



*— Нічога не разумею. Іншых падмануць — ну, бывае, здараецца... А як падмануць сябе?*

— Вось, напрыклад, калі ты нібыта і збіраешся да споведзі, а разам з тым угаворваеш сябе, што нічога асабліва кепскага ты не зрабіў. Іншыя дык нават і пахваляцца: «Я грахоў не маю!» А таго не жадаюць зразумець, што ўжо гэтымі словамі яны грашаць. Не хочуць бачыць сваіх грахоў — вось і ўсё тут! Таму што баяцца па-сапраўднаму зазірнуць у сваё сэрца, убачыць у ім увесь бруд. Так і падманваюць — найперш сябе, вядома, бо Езуса ж не ашукаеш.

*— Я недзе чуў альбо чытаў, што грэх пачынаецца там, дзе ўзнікае недавер да Пана Бога.*

— Ужо хто-хто, Яська, а я то гэта добра ведаю. На прыкладзе майго бацькі, які не паверыў арханёлу Габрыэлю, што мая маці народзіць мяне. Бо, маўляў, маці мая была тады ўжо немаладой. Разумееш, мой бацька забыўся на галоўнае — Бог можа ўсё! Няма такіх рэчаў, якія былі б Яму не пад сілу.

*— І тады Пан Бог пакараў твайго бацьку нематой. Страшна.*

— Я сказаў бы, што Пан Бог так выхоўваў і майго бацьку, і на ягоным прыкладзе — іншых людзей. Богу нельга не давяраць! Якія ж мы тады вернікі, калі сумняваемся ў Яго моцы, любові, міласэрнасці?

*— Ведаю, што ты любіў пасціць, а вось мы цяпер не надта любім, бо заўсёды ў посце хочацца чагосьці асабліва смачненькага. А-а, здагадаўся! Ты таму й хадзіў пасціць у пустыню, каб не было паблізу крамаў, так?*

— Падалей, кажаш, уцякаў ад супермаркетаў? Ну-ну...

*— Я штосьці не так сказаў?*

— Ды не, усё нармальна. Проста, Яська, я хадзіў надоўга ў пустыню, бо вельмі любіў сам-насам размаўляць з Богам. У цішыні. Ну і пасціўся, вядома, тады, выпростваючы такім чынам дарогу для Бога.

*— Ах, як усё складана!*

— Зусім не. Вось калі ты, Яська, любіш футбол, ты ж не шкадуеш часу на трэніроўкі, так? Ты дзеля свайго футболу можаш адмовіцца ад многіх рэчаў. Так?

*— Ну так, але да чаго ты ўсё гэта кажаш?*

— А да таго, што калі для мяне было найважней пазнаць Божую волю, пачуць Яго голас, то і я рабіў усё магчымае. І так, лічу, павінен рабіць кожны вучань Хрыста. Не шкадаваць часу для Яго! Зразумеў?

*— Яшчэ як! Асабліва, калі ты пачаў мне пра футбол казаць! Думаю, усе чытачы нашы таксама добра зразумелі цябе.*

— Дык і жадаю, дарагія мае, усім вам добра падрыхтавацца да прыходу Езуса! Не шкадуйце для гэтага часу, не бойцеся «перапрацавацца» на Божай ніве — рабіце простым шлях Езуса да вашых сэрцаў! А яшчэ, сябры, нагадаю вам мудрую прымаўку: «Чаму Яська не навучыўся, таго і Ян не будзе ўмець».

*— Ой, дык гэтая ж прымаўка пра цябе і пра-а-а... мя-яне...*

— А ты як думаў? Так што спяшайся вучыцца! Да гэтага ж я заклікаю і ўсіх іншых чытачоў часопіса.

*— Дзякуй, дарагі святы Ян Хрысціцель! Мы пастараемся!*

*Гутарыў Яська Запытальнік.*




# Біблійныя загадкі

Біблія — самая мудрая кніга свету. Многія дарослыя прызнаюцца, што яны ўжо некалькі разоў прачыталі яе, але і цяпер яшчэ не ўсё зразумелі. І не дзіва! На тое яна і мудрая, гэтая кніга, каб мы чыталі яе не раз і не два, а шмат разоў, каб прагнулі зазіраць у яе часта і ў ёй шукалі адказы на ўсе пытанні нашага жыцця.

Магчыма, хтосьці падумае, што калі ўжо дарослым няпроста разабрацца ў Бібліі, то куды ж там дзецям! Але таму для дзяцей і пішуцца многія іншыя кнігі, у якіх даступна, цікава, з прыгожымі малюнкамі ідзе гаворка пра біблійныя падзеі.

Нядаўна адна такая кніга выйшла ў свет у выдавецтве «Pro Christo». Называецца яна «Біблійныя загадкі». Кніга гэтая — падарунак для самых маленькіх чытачоў. Яна дапаможа ім з радасцю ўспрымаць Добрую Навіну — Евангелле, услухоўваючыся ў яго словы, разглядваючы прыгожыя ілюстрацыі, адгадваючы прапанаваныя загадкі.

Ілюстравала кнігу мастак Галіна Хінка-Янушкевіч, з чыёй творчасцю чытачы нашага часопіса сустракаюцца ў кожным нумары «Маленькага рыцара Беззаганнай».

*Рэдакцыя*



# Загадкавы Лучай

Касцёл у вёсцы Лучай, што на Пастаўшчыне, быў пабудаваны вельмі даўно, ажно ў 1777 годзе. Ён носіць імя апостала Юды Тадэвуша, таго самага, які дапамагае вернікам у вырашэнні вельмі складаных праблемаў, якія раней называлі на-





ват безнадзейнымі. Апякун святыні, безумоўна, спрычыніўся да таго, каб пасля многіх замахаў на яе яна ўсё вытрывала і ўмацавалася. Гэтак жа, як і вернікі, якія ў ёй моляцца.

У гэтай парафіі на працягу яе існавання было шмат мужных святароў, вернікаў. У савецкія часы праследу хрысціянскай веры тут верна служыла Богу ўтоеная сястра францішканка Ганна Дубовік, якая патаемна рыхтавала дзяцей да сакрамэнтаў. Цяпер унукі тых дзяцей ходзяць у лучайскі касцёл, не тоячыся. Тут наладжана цікавае парафіяльнае жыццё, якое ў асаблівыя святы часам нават упрыгожваецца шматколерным салютам. На хвалу Божую, вядома!

*І. Студзеньская*



# ЛЮБІЦЬ БОГА, СЛУЖЫЦЬ БЛІЖНІМ

Езус вучыць нас у Евангеллі: тое, што мы зробім сваім бліжнім, мы зробім Яму. А ці знойдуцца вернікі, якія не жадалі б рабіць дабро Богу? Відаць, няма такіх. Праўда, не заўсёды ў нас гэта добра атрымліваецца. І ўсё ж мы заўсёды мусім імкнуцца несці дабро людзям і Пану Богу. Вось што думаюць пра гэта нашы чытачы з лучайскай парафіі святога Юды Тадэвуша.



Езус даў нам прыклад служэння: дапамаць іншым, служыць бліжнім. Таму я прагну сваім жыццём наследаваць нашага Збавіцеля.

*Вераніка Варнель, 14 гадоў.*



Для мяне, як для хрысціяніна, важна служыць Богу, выконваць Яго загады. А гэта значыць — заўсёды знайсці час для свайго бліжняга, ніколі не пакідаць яго ў цяжкай сітуацыі. Менавіта так я і магу служыць Богу.

*Наталля Куцуха, 15 гадоў.*



Езус даў нам запаведзь любові: любіць бліжняга, як сябе самога, гэта значыць дапамагаць іншым, а не патрабаваць, каб нам служылі.

*Сяргей Лешчык, 15 гадоў.*



Хрысціянін павінен быць добрым, міласэрным, не крыўдзіць іншых, а дапамагаць ім. Ну і, вядома, ён павінен любіць Бога.

*Марыя Лібоза, 8 гадоў.*



Мы павінны адносіцца да людзей так, як хочам, каб яны да нас адносіліся.

*Марыя Кухальская, 9 гадоў.*





Хрысціянін павінен дапамагаць іншым, асабліва ў цяжкую для іх хвіліну. Бо Езус нас ніколі не пакідае.

*Паліна Матушэўская, 9 гадоў.*



Люблю дапамагаць іншым, таму што люблю людзей і хачу прыносіць радасць Богу.

*Аляксандра Бугай, 6 гадоў.*

Евангелле вучыць нас, як нам трэба дапамагаць людзям. А мы павінны быць сведкамі Езуса.

*Яна Татарчук, 12 гадоў.*

Езус усім людзям дапамагаў, усіх, каму цяжка, заўважаў, і Яго моцна любілі. Я таксама хачу быць падобнай да Езуса, быць добрай хрысціянкай.

*Ульяна Ландышка, 10 гадоў.*



Вельмі важна своечасова быць гатовым працягнуць руку дапамогі свайму бліжняму. І сапраўдная радасць — несці Езуса кожнаму чалавеку, які згубіўся і не бачыць Яго.

*Даша Малец, 12 гадоў.*

Рабіць дабро людзям і прыносіць радасць ім і Богу — гэта так цудоўна!

*Максім Сіняк, 10 гадоў.*

Дапамагаючы людзям, я дапамагаю самому Богу.

*Сева Жукаў, 10 гадоў.*



Ніколі нельга пакідаць чалавека, які разлічвае на нас. Езус бы так не зрабіў, і мы не павінны.

*Вераніка Анкудовіч, 10 гадоў.*



Калі мы любім бліжняга і падтрымліваем яго, мы выконваем Божыя запаведзі. Сам Езус даў нам прыклад служэння іншым, а хрысціянін павінен сведчыць аб Ім.

*Сняжана Варнель, 15 гадоў.*



Я люблю дапамагаць іншым, бо люблю свет, які стварыў Бог, і хачу, каб у ім людзі былі добрыя і служылі адзін аднаму.

*Вікторыя Буяліч, 9 гадоў.*

Езус вучыць нас любіць іншых, таму і я прагну быць добрай для сяброў, нікога не крыўдзіць і выконваць запаведзі Езуса.

*Дзіяна Лібоза, 10 гадоў.*

*Падрыхтавала сястра францішканка Ордэну Сям'і Марыі Марына Брылёнак.*





# АСАБЛІВАЕ СЛУЖЭННЕ

**Слова «міністрант» паходзіць ад лацінскага «*ministrare*», што значыць «служыць, дапамагаць». Узнікла падобнае служэнне яшчэ ў часы Старога Запавету, да яго было пакліканае адно з каленаў Ізраэля — калена Левія. А ў часы Новага Запавету Езусу служылі апосталы. Калі ж хрысціянства пачало распаўсюджвацца ў свеце і хрысціянскія супольнасці сталі павялічвацца, узнікла патрэба ў людзях, якія б дапамагалі рыхтаваць і праводзіць святую літургію. Спачатку гэтым займаліся толькі дыяканы, а пазней ужо і свецкія людзі.**

**З даўніх часоў патрабаванні да міністрантаў былі вельмі высокія: яны павінны былі быць добра адукаваныя і выхаваныя, даваць прыклад для іншых вернікаў не толькі пры алтары, у святыні, але і ў сваім штодзённым жыцці. Гэта — вялікая адказнасць, але таксама і вялікі гонар для кожнага хлопца.**

**Міністранты архікатэдральнага касцёла ў Мінску падзяліліся з намі сваімі думкамі пра тое, што гэта такое — быць міністрантам.**

*Арцём Сідаровіч, 14 гадоў:*

«Я стаў міністрантам зусім нядаўна, 1 лістапада, калі мы ўшаноўваем усіх святых. Для мяне гэта магчымасць быць бліжэй да Бога, а яшчэ служыць пры алтары — вялікая радасць. Я лічу, што кожны міністрант павінен перш за ўсё заўжды добра сябе паводзіць, а таксама мець моцную веру».





*Улад Дарошка, 14 гадоў:*

«Міністрант павінен заўжды рабіць добрыя ўчынкі, усім дапамагаць, быць уважлівым да іншых людзей, быць проста добрым чалавекам. Я служу пры алтары ўжо трэці год, а да гэтага яшчэ дапамагаў міністрантам. Больш за ўсё падчас літургіі я люблю, калі святар падымае ў руках Гостыю, гэта — самая прыгожая хвіліна».

*Віця Богдан, 11 гадоў:*

«Я — міністрант ужо 6 гадоў, доўга прасіў маму дазволіць мне ім стаць, і аднойчы на Божае Нараджэнне, калі ксёндз-пробашч наведваў нашую сям'ю, ён запрасіў мяне служыць пры алтары. Больш за ўсё мне падабаецца несці патэну падчас святой Камуніі і падаваць келіх. Калі я стаў міністрантам, я навучыўся адказна ставіцца да ўсіх сваіх абавязкаў.





*Вадзім Пастарнак, 12 гадоў:*

«Мне заўжды было цікава, што адчуваюць святары і семінарысты, калі стаяць пры алтары, і я таксама захацеў паспрабаваць. Заўсёды, калі служу, я адчуваю гонар за свой касцёл, і яшчэ — што я зусім блізка да Езуса Хрыста. Міністрант павінен быць паслухмяным, імкнуцца не парушаць запаведзяў, добра сябе паводзіць і, вядома ж, не размаўляць пры алтары. Мне вельмі падабаецца падчас святой Імшы быць лектарам — голасна чытаць урыўкі са Святога Пісання. А таксама люблю слухаць казанні, асабліва калі святар размаўляе з дзецьмі. Магчыма, я хацеў бы таксама пайсці ў семінарыю і калі-небудзь стаць святаром, але гэта вельмі складана і адказна. У мяне яшчэ не заўжды атрымліваецца добра сябе паводзіць, я да гэтага імкнуся».

*Падрыхтавала*
*Юлія Шэдзько.*



## Сястра Каралінка

Да нядаўняга часу мы з братам Максімам былі толькі ўдвух у мамы з татам. Ды вось у нашай сям'і з'явілася яшчэ і дзяўчынка — наша сястра Каралінка. Яна пакуль зусім малая, і мама з татам увесь час каля яе «танцуюць». Максім кажа, што раней, калі мы жылі толькі ўчацвярых, нам было прасцей, бо нас з ім больш любілі. Я ж не ведаю... Але, калі шчыра казаць, то наша Каралінка надта ж ужо вялікая плакса, і радасці ў хаце значна паменшала. Гэта нядобра. Нас з Максімам усе віншуюць, а нам дык неяк і не надта радасна пакуль што...

*Кірыл, 9 гадоў.*

## Віншую вас, хлопцы!

Дарагія Кірыл і Максім! Я далучаюся да вашых сяброў і знаёмых, якія вас віншуюць з нараджэннем сястры! Гэта сапраўды вялікая радасць! А тое, што Каралінка пакуль што шмат плача і мама з татам «каля яе танцуюць», дык гэта ж зразумела. Маленькім дзецям заўсёды трэба ўдзяляць шмат увагі. Калі вы, хлопцы, былі малыя, бацькі таксама вакол вас яшчэ як «танчылі»! А вось з тым, што бацькі вас раней больш любілі, я не згодны. Катэгарычна! Проста ў іх раней было больш часу быць з вамі. А калі вы цяпер будзеце ім дапамагаць, то ў іх зноў хутка з'явіцца час. І вам зноў усім будзе радасна й весела разам!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



Ірына Жарнасек




# НЕЛЬГА БЫЛО МАРУДЗІЦЬ




*Апавяданне*

У кватэры панаваў чамаданны настрой. Агромністая валіза стаяла пасярод залы, і мама складвала ў яе свае і татавы рэчы. Значна меншая і таксама раскрытая чырвоная валізка паглынала ў сябе ўсё, што ў яе скідвала Аленка. Петрык пасмейваўся:

— Ты, мабыць, на год сабралася за мяжу. Ну ж дзяўчаты — жыць не можаце без шмотак!

— А ты разумнік гэткі! — адмахвалася Аленка. — Вось як забудзешся штосьці, будзе табе тады!

— Ой, ратуйце! Румзаць пачну без кашулі ці шапкі!

З працы вярнуўся тата, і мама кінулася яму напярэймы:

— Ніяк не вырашу, якую табе куртку пакласці, карычневую ці шэрую? Не замерзнеш ты ў шэрай? Снежань усё ж на двары, хоць і Блізкі Усход... Як думаеш?

Тата ўздыхнуў і чамусьці нічога не адказаў. Ён пайшоў на кухню, зазірнуў у лядоўню, але нічога з яе не выняў, пайшоў да вакна і нейкі час штосьці пільна выглядваў там. Мама забразгала посудам:

— Зараз падагрэю...

— Пачакай, — адказаў тата, — трэба пагаварыць...

— Будзеш есці — тады й пагаворым.

— Пачакай! — тата прыхіліўся лобам да шыбы і сказаў, нібы стрэліў: — Мы не зможам паехаць у Бэтлеем на святы!

Драўляная лыжка, якой мама памешвала боршч, на момант застыла над рондалем, а потым глуха бразнула на падлогу, рассыпаўшы вакол сябе бурачковыя кроплі. Аленка ж проста заплакала:

— Ну вось ізноў!.. Як толькі куды збярэмся-я-я...

Петрык маўчаў. Па праўдзе, ён на гэты раз таксама ахвотна склаў бы сястры кампанію, але яму, хлопцу, не выпадала разводзіць макрэчу.

— Тут такая справа... — пачаў тата, не паварочваючыся ад вакна.

Але мама не пажадала

слухаць пра тую справу — порсткім крокам пайшла ў залу і з размаху зашморгнула замок на валізе:

— Усё! З’ездзілі! З вяртаннем у родную хату!

Аленка заплакала яшчэ гучней, цяпер яе скаргі даносіліся ўжо з ваннага пакоя:

— Я ўжо ўсім у класе расказала, што мы на Божае Нараджэнне едзем у Святую Зямлю. Мне ўсе зайздросці-і-ілі!



— Нечага было хваліцца, — буркнуў Петрык. Ён трымаўся па-мужчынску, з развагай: — Не зможам цяпер, дык іншым разам... можа, на Вялікдзень...

Аленка выбегла з ваннага паккою і закрычала на брата:

— На Вялікдзень з’ездзіш? А ў Вялікі чацвер тата скажа: «Тут такая справа — мы не зможам паехаць...»

— Ну якая, якая ў цябе там справа? —стомлена выцерла мама вочы. —Зноў нейкая пільная камандзіроўка?

Тата ўздыхнуў:

— Не, на гэты раз я нікуды не еду. У нас цяпер проста няма за што ехаць, бо я...

Мама заціснула далоняй рот, а Аленка ад жаху нават перастала плакаць. І тата ў раптоўна павіслай цішы выдыхнуў:

— Я аддаў грошы на аперацыю дзяўчынкі з Гомельшчыны, пра якую штодня казалі па тэлевізары... Яе завуць Даша. Ёй тры гады... Там, разумееце, нельга марудзіць. Інакш Даша памрэ. Я размаўляў з дактарамі... Бацькі збіралі грошы як маглі, аб’явы давалі ўсюды, ды толькі грошай трэба вельмі шмат... А марудзіць нельга...

Мама закрыла рукамі твар і глуха, стомлена прамовіла:

— Але ж ты, здаецца, пералічваў ужо для гэтай дзяўчынкі грошы? Ці гэта не для яе?

Тата прайшоўся па пакоі:

— Аказваецца, тое было кропляй у моры. Там усё вельмі сур’ёзна!..

Аперацыю будуць рабіць у Швецыі, і было б проста неразумна, каб там згадзіліся яе зрабіць, а мы не адправілі Дашу, бо паехалі сабе на святы ў Ізраіль.

Усе замоўклі, толькі ў ваннай гучна лілася вада, якую Аленка забылася выключыць. Усе, вядома, чулі гэты надакучлівы гук, але чамусьці ніхто не рушаў на яго са свайго месца. Надзвычайную важнасць моманту нібы адчуў нават кот Барсік: ён пацёрся аб татавы ногі, перайшоў да маміных, а потым замуркаў каля Аленкі, нібы ўгаворваў яе супакоіцца. Дзяўчынка пагладзіла яго і запыталася ці то ў таты, ці ў мамы, ці ў Барсіка:

— Ну а калі мы паедзем у Бэтлеем?

Мама памкнулася штосьці адказаць ёй, але змоўчала, а тата абняў адной рукой дачку, другой прыгарнуў да сябе сына і ціха прамовіў:

— Разумееце, мне было б вельмі цяжка ехаць туды, ведаючы, што ў гэты самы час Даша памірае. Я чамусьці ўпэўнены, што вам таксама было б нядобра. Не хачу чарговы раз быць ілгуном, таму сёння абяцаць нічога не буду, але...

— А ты і не абяцай! — абхапіла яго за шыю Аленка. — Лепш мы некалі з’ездзім без абяцанак.

Барсік скочыў тату на плячо і, здалося, прамуркаў тое ж самае яму проста ў вуха. Пасмялелы тата заўсміхаўся і нарэшце адважыўся ўзняць вочы на маму. Ён нічога не запытаў у яе, але яна адказала на ягонае нямое пытанне тым, што села на валізу ды ўздыхнула:

— І як бы мы цягалі там гэткі цяжар? Немагчыма!



# Уцёкі ў Егіпет

**Евангелле паводле святога Мацвея**
*Раздзел 2, вершы 13–15*

Калі адышлі, анёл Пана з’явіўся Юзафу ў сне і сказаў: **«Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе; бо Ірад будзе шукаць Дзіця, каб загубіць Яго».** Падняўшыся, ён узяў Дзіця і Маці Яго ноччу і адправіўся ў Егіпет. Быў там да смерці Ірада, каб збылося сказанае Панам праз прарока: **«З Егіпта Я паклікаў Сына Майго».**





# Дабро памнажаецца

Мудрацы прынеслі дары маленькаму Езусу ў Бэтлеем і тым самым выказалі Яму сваю вялікую пашану. Яны не звярталі ўвагі на тое, што Немаўлятка разам са сваёй сям'ёй знаходзіліся ў галечы. Мудрацы на тое і былі мудрацамі, каб зразумець, хто ёсць сапраўдным Валадаром свету. Яны пакланіліся Яму і пасля гэтага адразу вырушылі ў зваротны шлях, бо ведалі, што жорсткі Ірад можа перашкодзіць ім. Гэтага нельга было дапусціць, бо вельмі важна было цяпер распавесці іншым людзям пра тое, што ў Бэтлееме нарадзіўся Збаўца!

А тым часам Юзаф атрымаў новае заданне: «Бяжы ў Егіпет». Яму дзеля таго, каб паслухацца гэтага голасу і неадкладна вырушыць у дарогу, таксама спатрэбілася мудрасць. Дзякуй Богу, святы Юзаф быў мудрым і паслухмяным чалавекам. Ён не адмахнуўся ад анёльскага папярэджання, але як найхутчэй выканаў яго. І ён, і Святая Марыя вытрывалі цяжкую дарогу і нялёгкае жыццё на чужыне дзеля свайго Дзіцятка. Яны зрабілі ўсё магчымае, каб выратаваць Яго. І зрабілі яны гэта не толькі для Яго, але і для ўсіх нас.

Як жа гэта важна — забываць пра нязручнасці і цяжкасці дзеля іншага чалавека! І можа стацца так, што потым, праз гады, гэтая ахвярнасць выльецца ў яшчэ большае дабро, бо такая ўласцівасць дабра — яно здольнае памнажацца.

# Гульні Загадкі



## ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Сябры! У чарговы раз мы запрашаем вас разгарнуць Евангелле і пашукаць у ім адказы на пытанні, якія вам прапануем. Будзьце ўважлівыя! І не бойцеся складаных пытанняў. Яны дапамагаюць думаць і разважаць над старонкамі Евангелля. Поспехаў вам!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- Якім імем хацелі першапачаткова назваць суседзі і сваякі Яна Хрысціцеля і чаму? (Лк 1,57–66)
- Каго назваў Захарыя Узыходзячым Сонцам? (Лк 1,67–78)
- Калі вернікі паўтараюць праслаўленне Пана Бога анёльскімі словамі, якія запісаў евангеліст Лука? (Лк 2,8–14)
- У якой частцы святога Ружанца мы разважаем аб падзеях, што адбыліся ў Бэтлееме 2000 гадоў таму?
- Як вернікі называюць спеў Найсвяцейшай Панны Марыі, якім Яна адказала святой Альжбеце пры іх сустрэчы? (Лк 1, 46–55)
- Што азначае імя Езус? (Мц 1, 18–24)
- Як звалі сына цара Ірада? (Мц 2)
- Чыёй дачкой была прарочыца Ганна? (Лк 2)

*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»**, *змешчаныя ў №3 за 2011 г.*

Першыя вучні Езуса — Пётр і Андрэй, Якуб і Ян; людзей было так шмат, што Езус мусіў прамаўляць з лодкі; сыны грому, скала; Мацвей; апостал Пётр уваскрасіў Тавіфу; пасля таго, як Саўл невядомаю сілаю быў скінуты з каня і пачуў голас з неба: «Саўл, Саўл, чаму ты мяне праследуеш?»; у Антыёхіі; той, хто наследуе Хрыста ў сваім жыцці.



На гэты раз узнагароду ад ксяндза Сяргея Сурыновіча атрымае **Оскар Усціновіч** з пас. Свір, што на Мядзельшчыне. Віншуем Оскара за адвагу, бо ён не пабаяўся складанасці загадак, чаго, на жаль, не скажаш пра некаторых іншых нашых чытачоў.

*Рэдакцыя*

**Адказы на загадкі з №3 за 2011:**

**«Якое імя?»** — Пётр.

**«З Маці Божай...»** — абраз Маці Божай Вастрабрамскай асаблівым чынам ушаноўваюць літоўцы, беларусы і палякі.



# Крыжаванка

Адгадай крыжаванку, запішы правільныя адказы і ў выдзеленых клетках прачытай назву горада, у якім нарадзілася Найсвяцейшая Панна Марыя.

1. Ён хрысціў Езуса.
2. Бабуля Езуса.
3. Сябар Езуса, якога Ён уваскрасіў.
4. Адзін з трох мудрацоў, што прыйшлі пакланіцца Езусу.
5. Другі мудрэц.
6. Горад, у якім нарадзіўся Езус.
7. Трэці мудрэц.






*Сябры! А вы ўмееце складаць цікавыя крыжаванкі альбо іншыя загадкі? Калі так, то прысылайце іх нам. Будзем разам адгадваць! Аўтар лепшай загадкі альбо крыжаванкі атрымае напрыканцы 1912 года прыз часопіса. Дык за працу!*

# Напруж зрок

Якія элементы паўтараюцца на гэтых малюнках?





# Прыгоды ксяндза Лявона

## Толькі на вуха

Чым бліжэй да святаў Божага Нараджэння, тым мацней ксёндз Лявон чухае патыліцу: які сёлета будзе мех святога Мікалая? Ці хопіць грошай не толькі на цукеркі, але й на смачныя фрукты? Думаў, маракаваў і...адважыўся!

Паехаў ксёндз Лявон да біскупа — каб, значыцца, з ім абмеркаваць гэтую няпростую справу. Ехаў і ўсё угаворваў сябе, што, маўляў, правільна робіць ён, бо, маўляў, як жа інакш тут зробіш, што прыдумаеш? А прыехаў, і куды толькі падзелася рызыка! Яшчэ добра, што біскупа не аказалася на месцы. Сёстры прапанавалі ксяндзу Лявону каву альбо гарбату. Ад усяго адмовіўся — што тут у глотку палезе? Сядзеў, думаў, пачаў пакой крокамі мераць, а потым і сеў на падлогу ў куточку, як некалі ў дзяцінстве. Было такое тады: правініцца нечым хлопчык Лявонка, ведае, што бацькі за гэта па галоўцы не пагладзяць, дык сядзе Лявонка ў кутку і чакае пакарання. А бацькі прыйдуць, часам пасварацца ды загадаюць не пасядзець ужо, але пастаяць па ўсёй форме ў кутку, а калі-небудзь пасмяюцца з хлопца — ладна ўжо, хітрэц, вылазь...

Вядома, ксёндз Лявон не чакаў, што біскуп з ім гэтаксама абыдзецца — проста спрацавала даўняя звычка. Сядзеў ксёндз Лявон, сядзеў ды пачаў ужо прыкідваць, як яму неўпрыкмет выслізнуць за дзверы, падумаў, што лепш згодны ён не есці, не піць, але каб і не прасіць... І ў гэтую самую адказную хвіліну ўвайшоў біскуп:

— Дык а дзе той мой госць? — гукнуў ён сёстрам. — Няма ж тут нікога!

Але прыгледзеўся — сядзіць хтосьці ў кутку. Добра, што ўжо цямнелася, дык ксёндз Лявон галаву апусціў, звесіў яе як ніжэй ды адважна так выцягнуў руку:

— Можа ксёндз біскуп дапаможа беднаму пробашчу з Замошша? Крызіс на двары, а падарункі дзецям з чаго зрабіць?.. Што ў мех святому Мікалаю пакласці?

Біскуп так смяяўся, што ажно шапачка ягоная звалілася з галавы.

— Дык няхай святы Мікалай і думае — я тут пры чым?

— Ну-у... я падумаў, што вы як біскуп — біскупу... можа, падможаце... — павесялеў і ксёндз Лявон.

...Падарункі на гэты раз у парафіі былі багатыя. Адно што біскуп, даючы ксяндзу Лявону грошы ды выціраючы ад смеху слёзы, прасіў, каб той не надта расказваў пра гэтае здарэнне іншым святарам.

— А святому Мікалаю можна расказаць? — папытаў ксёндз Лявон.

— Яму можна, але толькі на вуха, — адказаў біскуп.

*Прыгоду запісала І. Ж.*





# Галерэйка



Караліна Сухарукава,
Мінск.



Аня Мядзекша.

Валерыя Шкіруць.





Дамініка Сухарукава,
Мінск.

Уладзіслаў Пілімон.



